Штотыднёвая газета
# Вольнае Глыбокае
vglybokaye@tut.by
Выдаецца са снежня 1994 года

**Выдавец:** Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК. Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

№6 (618) 9 лютага 2012 года. Кошт свабодны.

Глыбоцкі раён

# Адданыя роднаму краю

■ Чэслаў Якубовіч

**У чарговы раз у вобласці вызначылі лаўрэатаў ганаровага звання і прэстыжнай прэміі “Чалавек года Віцебшчыны-2011”.**

У гэтым своеасаблівым конкурсе удзельнічаюць самыя дастойныя прадстаўнікі розных галін дзейнасці ў народнай гаспадарцы, сацыяльнай сферы, бізнесу, спорту, а сёлета ўпершыню і сярод моладзі. Усяго ў 19 намінацыях, як і раней, нагрудныя знакі, грашовыя прэміі ў суме каля 10 млн. рублёў былі ўручаны 100 лепшым з лепшых на ўрачыстай цырымоніі ў канцэртным зале “Віцебск” абласнога цэнтра. Своеасаблівым трыумфатарам на гэтых урачыстасцях выглядала дэлегацыя Глыбоцкага раёна, бо адсюль узнагародзілі ўпершыню адразу 7 чалавек. І гэта, сапраўды, дастойныя людзі, гордасць Глыбоччыны, яе залаты фонд. У прыватнасці адзначаны так высока заслугі мясцовага музыканта з раённай гімназіі Анны Шакола. Сярод лепшых працаўнікоў сваіх калектываў лаўрэатамі сталі вадзіцель аўтапарка № 16 Іван Шаўчук, электраманцёр мясцовых электрасетак Васіль Гурновіч, страхавы агент “Белдзяржстраху” Інна Снітко. У абласным цэнтры былі годна адзначаны таксама прафесійныя дасягненні старшыні праўлення Глыбоцкага райпа Марыны Толкач, дырэктара Празароцкага педкомплекса дзетсад-сярэдняя школа Вольгі Гінько. У намінацыі “мясцовае кіраванне і самакіраванне” адным з лепшых прызналі ў вобласці старшыню Удзелаўскага сельсавета Віктара Кармана. Па існуючай традыцыі неўзабаве бігборды з іх партрэтамі з’явяцца на радзіме, дзе жыве і працуе вельмі шмат такіх дастойных людзей.



# Лічба нумара

**5 – столькі прэтэндэнтаў** працягваюць барацьбу за пасаду прэзідэнта ў суседняй з намі і саюзнай Расіі. Акрамя патэнцыйнага лідара выбарчай гонкі, дзеючага прэм’ер-міністра Уладзіміра Пуціна ў выбарчы бюлетэнь будуць уключаны прозвішчы яшчэ трох вядомых палітыкаў і самавылучэнца, 46-гадовага паспяховага бізнесмена Міхаіла Прохарава з амаль што двухметровым ростам і пакуль што нежанатага. Для беларусаў, зразумела, вынікі гэтых расійскіх выбараў многае значаць, бо надта ўжо цесна перапляліся нашы гаспадарчыя сувязі, ваенна-палітычныя стасункі цяпер яшчэ ўжо ў рамках Еўразійскай эканамічнай камісіі, старшынёй Савета якой выбралі беларускага віцэ-прэм’ера Сяргея Румаса.

Пакуль жа большасць палітолагаў сцвярджаюць, што расійскі прэм’ер найбольш верагодна зможа выйграць і свае трэція па ліку прэзідэнцкія выбары. Праўда, не выключаецца інтрыга, што пуцінская крамлёўская каманда не атрымае жаданую перамогу ўжо ў першым туры галасавання. Усё ж, у адрозненне ад нас, у расіян існуе большая свабода слова. Там не баяцца нават па цэнтральных тэлеканалах у прамым эфіры запрашаць у студыю апазіцыйных Крамлю палітыкаў і адкрыта гаварыць аб сваіх праблемах.

Прайшлі па ўсёй Расіі пасля парламенцкіх выбараў масавыя акцыі пратэсту і ніхто з паліцыі не разганяў іх сілай. Праўда, і расійскую прэзідэнцкую выбарчую кампанію ідэальнай дэмакратычнай яшчэ цяжка назваць. Як і лічбу 2 мільёны подпісаў, якіх трэба было сабраць на расійскіх прасторах, каб быць уключаным у выбарчы спіс. Таго ж іркуцкага губернатара Дзмітрыя Мезенцава не дапусцілі да выбараў па фармальнай па-сутнасці прычыне, калі прызналі 15 тысяч сабраных у яго падтрымку подпісаў несапраўднымі.

Яшчэ аднаму вядомаму палітыку Рыгору Яўлінскаму адмовілі ў рэгістрацыі за фармальнае “парушэнне” парадку афармлення падпісных лістоў. Усё ж Крамлю спакайней, калі даволі моцны і вядомы гэты апазіцыйны палітык, лідар “Яблыка” (ён цяпер працуе ў Думе Санкт-Пецярбурга) не будзе публічна выкрываць на этапе перадвыбарнай агітацыі хібы і правалы эканамічнай палітыкі дзеючай улады. А сам галоўны фаварыт выбараў піша (за яго прыдворныя эксперты і дарадцы) адзін за другім свае праграмныя артыкулы і канстатуе, што ёсць зрухі ў саюзным будаўніцтве, але не ўдаецца дамовіцца з афіцыйным Мінскам наконт агульнай валюты, расійскага рубля.

Такую магчымасць выключыла на дадзеным этапе і новы кіраўнік беларускага Нацбанка Надзея Ермакова, бо не прыведзена ў парадак айчынная грашова-крэдытная сфера, існуюць шэраг іншых праблем. І сапраўды, патэнцыялы нашых дзвюх краін проста непараўнальныя, беларуская планавая эканоміка складае ўсяго толькі 3 % расійскай рынкавай. Беларускае кіраўніцтва не можа быць самагубцам і аддаваць Маскве права на грашовую эмісію, калі цяпер па ўзроўню заробкаў і даходаў беларусы сталі значна адставаць ад рускіх.

А ў нашых суседзяў барацьбу за пасаду прэзідэнта РФ вядуць 5 кандыдатаў, чатыры гады назад было меней на аднаго з прэтэндэнтаў. Прадстаўнікі Расіі былі ў яўнай меншасці, калі прагаласавалі нядаўна ў Страсбургу (Францыя) супраць рэзалюцыі ПАСЕ аб далейшых санкцыях у адносінах цяперашняга кіраўніцтва Беларусі. Пад чарговыя санкцыі ЕС могуць трапіць яшчэ 135 беларускіх чыноўнікаў і нават некалькі айчынных прадпрыемстваў.

Аднак якімі б ні былі цёплымі і шчырымі сяброўскія сувязі РФ і РБ, у кожнага з бакоў былі і застануцца свае геапалітычныя інтарэсы. Вось і пасля працяглых перамоў беларусы не змаглі дабіцца права самастойна ўстанаўліваць тарыфы за пракачку расійскай нафты па сваёй тэрыторыі. Беларускі бок не даказаў абгрунтаванасць сваіх прапаноў і разлікаў павялічыць на 20 % з 1 лютага тарыф за транзіт суседскага “чорнага золата”. Расіяне згадзіліся на павышэнне тарыфаў для нас на 8,3 %, а ўкраінцы дабіліся павышэння такой тарыфнай стаўкі на 8,5 % і не ў расійскіх рублях, ад 7,7 еўра за тону. А хто будзе кіраваць Расіяй далей у Крамлі, стане вядома ўжо зусім хутка.

Пастаўскі раён

# Прайшоўся “тэрмінатар” па лесе

■ Кастусь Александровіч

**Стаўка на суперсучаснае абсталяванне і тэхналогіі прадвызначыла імклівы рост вытворчасці на буйнейшым у рэгіёне прыватным прадпрыемстве – “Пастаўскі мэблевы цэнтр”, дзе толькі летась прадалі за мяжу 250 тысяч натуральных дзвярэй.**

Каб не залежыць ад пастаўшчыкоў, нарыхтоўкамі сыравіны заняліся самі, паколькі штодзень трэба мець для патрэб вытворчасці па 3 і болей чыгуначных вагонаў з лесам. Тут у пачатку года запусцілі італьянскі лесапільны завод, стварылі і ўласны цэх лесанарыхтовак на заходні манер. ПМЦ уклаў у яго амаль 15 млрд. рублёў. Было закуплена неабходнае дапаможнае абсталяванне для работ на лесасеках па ўсёй краіне вахтавым метадам з аўтаномным пражываннем. Аднак асноўнай для яго стала тэхніка адной з лепшых у свеце фінскіх фірм Ponsse. Першыя вынікі працы брыгады з некалькіх чалавек, якія прайшлі спецнавучанне ў сталічным тэхнічным універсітэце, проста ўразілі. За першыя два дні працы ў Груздаўскім лясніцтве было нарыхтавана да 400 кубаметраў сасны. Толькі адзін комплекс машын “лесарубперавозчык” замяняе да 80 звычайных працаўнікоў, па прадукцыйнасці працы апяраджвае самага спрактыкаванага чалавека ў 8 (!) разоў. Прычым у аўтаматычным рэжыме спілоўваюцца вялізныя дрэвы, даводзяцца да ладу без сукоў, самазагружаюцца і дастаўляюцца на прадпрыемства. Адразу 8 машын-лесавозаў толькі паспяваюць дастаўляць сыравіну мэбельшчыкам цяпер ужо з Астравецкага раёна, куды перабраўся цэх лесанарыхтовак ПМЦ.

Шаркоўшчынскі раён

# У вогненнай пастцы

■ Станіслаў Раманчук

**Даволі моцныя нават для нашых шырот працяглыя маразы не маглі не выклікаць павелічэння розных трагічных здарэнняў.**

У люты холад толькі за адны суткі па краіне былі адзначаны 23 пажары, у агні якіх загінула 9 жыхароў, сярод якіх трое дзяцей. На жаль, у гэту сумную статыстыку трапіла і вёска Вялікае Сяло Шаркаўшчынскага раёна. Яго жыхары доўга не маглі адысці ад шоку, як недарэчна днём тут у сялянскай хаце загінулі 2 хлопчыкі, якім толькі ў снежні споўнілася па 3 годзікі. Мяркуецца, што прычынай трагедыі стала дзіцячае свавольства з агнём малых, пакінутых без нагляду. У той трагічны дзень моцныя клубы дыму з вокан і з даху будынка заўважылі суседзі. Аднак на дзвярах хаты вісеў замок. Да моманту прыезду пажарных полымя ахапіла практычна ўсё памяшканне, у якім стаў абвальвацца нават дах. У такой сітуацыі выратаваць жыцці хлопчыкаў было нерэальна і іх абгарэлыя цельцы былі знойдзены пад заваламі. Як высветлілася, той раніцай маці шматдзетнай сям’і адправіла чатырох старэйшых у школу, а малых пакінула, калі пайшла за пакупкамі ў магазін. Пасля пахавання загінуўшых дзетак, гэта сям’я перабралася жыць да дзядулі з бабуляй у гэтай жа вёсцы. Дарэчы, цяпер не толькі дзяцей, але і старых небяспечна пакідаць адных. Па гэтай жа прычыне ў адсутнасць дачкі загінуў пажылы пенсіянер у Сенненскім раёне, калі не дагледзеў печку, якую цепліў. У Полацку старога выратавалі суседзі, аднак пражываць у пашкоджаным доме стала больш нельга.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 09.02.12 | | | | Пятніца 10.02.12 | | | | Субота 11.02.12 | | | | Нядзеля 12.02.12 | | | | Пнд. 13.02.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -18 | -18 | -13 | -16 | -21 | -22 | -15 | -18 | -22 | -23 | -14 | -18 | -21 | -19 | -10 | -11 | -10 | -9 | -3 |
| Ціск | 763 | 763 | 763 | 763 | 763 | 762 | 763 | 762 | 761 | 760 | 760 | 758 | 757 | 756 | 755 | 754 | 752 | 751 | 750 |
| Вільготнасць | 99 | 91 | 77 | 88 | 87 | 94 | 86 | 93 | 92 | 95 | 82 | 95 | 94 | 96 | 90 | 99 | 100 | 100 | 93 |
| Вецер м/сек | С-В 2 | С-В 2 | С-В 4 | С 5 | С-В 2 | С-З 3 | С-З 4 | С-З 4 | С 3 | З 4 | С-З 5 | З 4 | Ю-З 3 | Ю-З 4 | Ю-З 5 | З 5 | З 6 | С-З 7 | С-З 7 |
| | | 08:45 | 18:01 | | | 08:43 | 18:03 | | | 08:41 | 18:05 | | | 08:38 | 18:08 | | 08:36 | 18:10 | |

## Дзень за днём

**Пад ціскам Расіі новыя імпартныя аўтамабілі ў Беларусі падаражэлі мінімум на 15 %. Беларусь застаецца і зімой "лідарам" у СНД па росту спажывецкіх цэн. Ужо 64 % беларускіх студэнтаў вучацца платна і для іх у лютым істотна павялічыўся кошт навучання. Генпракуратура РБ прапанавала не прадаваць алкаголь асобам, маладзей за 21 год, а таксама поўнасцю забараніць рэкламу піва і моцных напіткаў. Час няўмольны, у пачатку года ў краіне засталося толькі 32 тысячы ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, з іх ваявалі 23 тысячы, летась пакінулі гэты свет 12 тысяч салдат-пераможцаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША**. Сусветны банк спрагназаваў сёлета падзенне тэмпаў росту ВУП Беларусі да 0,5 %, фінансавыя ўзрушэнні і цяжкасці, па яго ацэнках, закрануць і суседнія краіны Еўропы.

**Украіна.** Прэм'ер-міністр М. Азараў пацвердзіў, што краіна вывучае вынікі працы Мытнага саюза РФ, РБ і Казахстана і не выключае магчымасці далучыцца да яго.

**Лівія.** Новыя ўлады краіны вырашылі судзіць сына Кадафі 39-гадовага Сейфа аль-Іслама на радзіме, падчас следства яго трымаюць пад вартай у ізалятары суда горада Зінтан.

**Расія.** Глава МЗС С. Лаўроў заявіў, што Расія і надалей будзе гандляваць зброяй з Сірыяй і не стане падтрымліваць уведзеныя супраць яе міжнародныя санкцыі ЕС, ЗША і Турцыі.

**Кітай.** Старэйшы сын памерлага Кім Чэн Іра раскрытыкаваў увесь маразм КНДР – псеўдадзяржавы для народа і перадачу ўлады ў 3-м калене, пасмешышча для ўсяго свету.

**Харватыя.** Пры нізкай яўцы выбаршчыкаў на рэферэндуме аб уступленні ў ЕС 67 % харватаў прагаласавалі за еўрапейскую будучыню краіны, якая ў 2013 годзе уступіць у ЕС.

**Іран.** Адыёзны рэжым забараніў вярнуцца з Францыі на радзіму маладой актрысе Гальшыфце Фарахані пасля яе пратэстаў супраць абмежавання правоў іранскіх жанчын.

**Куба.** Дачка прэзідэнта Рауля Кастра ініцыявала рэвалюцыйныя змены ў законе, легалізацыю аднаполых саюзаў гомасэксуалістаў і лесбіянак, іх раней жорстка каралі.

**Нігерыя**. У выніку жудаснага тэракту ісламістаў-смяротнікаў групоўкі "Бока Харам" у другім па велічыні горадзе краіны Кано загінула ў розных месцах 215 хрысціян.

**Італія.** Падчас рэгламентных работ у правінцыі Таскана ўзарваўся газаправод, утварылася 25-метровая яма, моцны пажар знішчыў шэраг дамоў, пацярпела 10 чалавек.

**Украіна.** Блок Ю. Цімашэнкі (рэйтынг 16 %) пойдзе на выбары ў Раду адзіным спісам з яшчэ 10 арганізацыямі, давер Партыі рэгіёнаў В. Януковіча летась абваліўся з 39 да 14 %.

**Латвія.** Кінастудыя "Беларусьфільм" стала саўдзельніцай міжнароднага праекта, па якому вядомы рэжысёр С. Лазніца экранізаваў тут ваенную драму В. Быкава "У тумане".

**Куба.** Новую хвалю крытыкі сусветнай супольнасці палітыкі кубінскіх улад выклікала смерць пасля 50 дзён галадоўкі пратэсту 31-гадовага дысідэнта Вільмана Вільяра.

**ЗША.** Адна з вядучых у свеце кампаній вытворцаў фотакамер Kodak аб'явіла аб сваім банкротстве і рэарганізацыі, не дзейнасць некалькі апошніх гадоў была стратнай.

**Алжыр.** Прыродная анамалія накрыла краіну, ў пустыню Сахара прыйшлі халады, выпаў снег з мяцеліцай, які растаяў праз суткі, магутны снегапад накрыў цёплую Турцыю.

# Над Еўропай будзе лётаць самалёт, названы ў гонар знакамітага глыбачаніна



■ Алесь Сьнег

**Еўрапейскае агенцтва па авіяцыйнай бяспецы выдала сертыфікат тыпу EASA на самалёт Sukhoi Superjet 100, які пацвердзіў адпаведнасць патрабаванням лётнай прыдатнасці і ўздзеяння на навакольнае асяроддзе. Пра гэта паведамляецца ў прэс-рэлізе «Грамадзянскіх самалётаў Сухога».**

Дадзены сертыфікат дазваляе еўрапейскім авіякампаніям (і кампаніям іншых краін, дзе нормы EASA прынятыя ў якасці стандарту) атрымліваць і эксплуатаваць SSJ-100. Цырымонія ўручэння сертыфіката адбудзецца 24 лютага.

Праграма еўрапейскай сертыфікацыі складалася з шэрагу адмысловых лётных і наземных выпрабаванняў. У прыватнасці, пілоты EASA правялі сесіі на інтэгральным стэндзе ГСС «Электронная птушка» і прынялі ўдзел у 45 сертыфікацыйных палётах агульнай працягласцю каля 70 лётных гадзін для таго, каб пераканацца ў бяспецы і належных паводзінах самалёта ў любой сітуацыі.

Sukhoi Superjet 100 (SSJ-100) - рэгіянальны 100-мясцовы самалёт новага пакалення, распрацаваны і выраблены кампаніяй «Грамадзянскія самалёты Сухога» пры ўдзеле італьянскай кампаніі Alenia Aermacchi. 19 траўня 2008 года SSJ-100 здзейсніў першы палёт. 19 красавіка 2011 года першы серыйны SSJ-100 быў пастаўлены армянскай авіякампаніі «Армавія». У наш час шэсць самалётаў Superjet эксплуатуюцца авіякампаніямі «Армавія» і «Аэрафлот», паведамляе lenta.ru.

Кампанія «Грамадзянскія самалёты Сухога» (ГСС), якая ўваходзіць ў склад холдынгу «Сухой», была ўтворана ў 2000 годзе для стварэння новых узораў авіяцыйнай тэхнікі грамадзянскага прызначэння. Як і вышэйзгаданы самалёт яна носіць імя аднаго з заснавальнікаў савецкай рэактыўнай і звышгукавой авіяцыі авіяканструктара Паўла Восіпавіча Сухога, які нарадзіўся ў горадзе Глыбокае.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Клімавічы.** Следчы камітэт РБ паведаміў аб арышце злачыннай групы ў пагонах на чале з начальнікам мясцовага РАУС, якія вымагалі ў прадпрымальніка 500 тысяч долараў.

**Мінск.** У адным з гіпермаркетаў з'явілася іспанская сыравэнджаная каўбаса Сапа de loma коштам 930 тыс. руб./кг, айчынныя каўбаскі таксама ёсць па цане больш 110 тысяч.

**Бабруйск.** ААТ "Белшына" запусціла ў продаж новую легкавую шыну 175/70R13 для эксплуатацыі ў зімовых умовах, на прадпрыемстве пачалі выпуск шын і для іншамарак.

**Мінск.** У Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтры на працягу 17 гадзін правялі першую складаную аперацыю па перасадцы 52-гадоваму пацыенту печані і нырак.

**Магілёў.** Адразу 719 работнікаў стратнага завода штучнага валакна трапілі пад скарачэнне, зараз на Магілёўшчыне існуюць яшчэ 12 стратных прадпрыемстваў.

**Бяроза.** Камбінат сілікатных матэрыялаў, які належыць алігарху Юрыю Чыжу, стаў самым стратным у Беларусі, толькі за паўгода яго страты дасягнулі 50 млрд. рублёў.

**Маладзечна.** Прадпрыемства "Белчыгункапраект" завяршыла працу над праектам "Электрыфікацыя напрамку Маладзечна-Гудагай-граніца Літвы" сумесна з літоўцамі.

**Дзятлава.** Па раёну пайшлі размовы, дзе змог зарабіць 65 тысяч $ 30-гадовы старшыня слабага калгаса, якія скраў у яго сусед, але злодзей быў затрыманы супрацоўнікамі РАУС.

**Баранавічы.** Беларуская чыгунка ўвяла дадатковы вячэрні рэйс на Мінск у пятніцу, суботу і нядзелю швейцарскіх электрацягнікоў рэгіянальных ліній, паездка займае 1,36 гадзіны.

**Мінск.** Кіраўнік БТ Г. Давыдзька прызнаў, што не хапае сродкаў на тэхнічнае развіццё, хоць на патрэбы электронных СМІ з дзяржбюджэту далі 34 млн. еўра, газетам – 5 млн.

**Магілёў.** На базе ААТ "Бабуліна крынка" да лета будзе створаны першы ў Беларусі малочны холдынг з 19 структурных падраздзяленняў, большасцю ўсіх малаказаводаў вобласці.

**Смалявічы.** У вёсцы Лужкі, размешчанай усяго ў 30 км ад сталіцы, на працягу 3 сутак не было ні гарачай, ні халоднай вады, пакуль не паставілі новы насос замест бракаванага.

**Мінск**. Белдзяржуніверсітэту перадалі ў карыстанне самы сучасны 14-павярховы вучэбны корпус факультэта міжнародных адносін на Прывакзальнай плошчы сталіцы.

**Гомель.** Падчас канфлікту на тэрыторыі базы гародніны 27-гадовы беларускі фермер мантыроўкай забіў 45-гадовага прадпрымальніка з Бранска (РФ), а цела закапаў тут.

**Мінск.** Вышэйшая атэстацыйная камісія прысудзіла вучоную ступень доктара навук былому ўрачу прэзідэнта Ірыне Абельскай, яна кіруе медцэнтрам, яе лічаць мамай Колі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** У асобных раёнах горада адключылі трансляцыю ўсіх 17 каналаў аналагавага тэлебачання, прымаць сігнал маглі толькі ўладальнікі лічбавых прыёмнікаў і прыставак.

**Полацк.** Моцны пажар ноччу знішчыў 2-павярховую драўляную чыгуначную станцыю Адамова 1872 года пабудовы, 3 гады назад яе будынак быў капітальна адрамантаваны.

**Орша.** На базе льнокамбіната, як адзначыў глава вобласці А. Косінец, павінен запрацаваць холдынг "Віцебскі лён" з 10 льнозаводаў, льностанцыі і тэхналагічнага ўніверсітэта.

**Новалукомль.** На ўзводзімай парагазавай установцы ПГУ-400 Лукомльскай ГРЭС пабываў пасол КНР у Беларусі Гун Цзяньвэй, кітайцы гатовы пачаць і вытворчасць аўто.

**Лепель.** У выніку ДТЗ днём у снегапад ля вёскі Вялікі Палсвіж загінула 25-гадовая віцяблянка на "Опелі" і 3-гадовая дачка кіроўцы, атрымалі траўмы яшчэ 4 чалавекі.

**Полацк.** ААТ "Полацктранснафта Дружба" падала ў Вярхоўны суд Латвіі апеляцыю на рашэнне Латгальскага акругова суда па спрэчнай нафце ў латвійскіх нафтаправодах.

**Гарадок.** Ля вёскі Давыдкі на дарозе на Віцебск разбілася насмерць 42-гадовая выкладчыца каледжа, спрабуючы не задушыць аўто сабаку, які раптам выбег на трасу.

**Віцебск.** Рэкордную суму, звыш 300 млрд. рублёў заклалі сёлета ў абласны бюджэт на фінансаванне аховы здароўя, сродкі пойдуць на мадэрнізацыю 240 такіх устаноў.

**Полацк.** Прыватная фірма "АГВ Полспо" сумесна з абласным упраўленнем МНС распрацавала, правяла выпрабаванні і сертыфіцыравала сучасныя пажарныя шлемы.

**Глыбокае.** Міліцыя затрымала і распачала крымінальную справу супраць 47-гадовага жыхара раёна, які на глебе рэўнасці збіў і раніў з самаробнага пісталета аднавяскоўца.

**Новалукомль.** З сатрасеннем мозгу і траўмай галавы даставілі бацькі ў бальніцу 3-гадовага сына, яму стала дрэнна праз суткі, калі мама зляцела на сваім аўто ў кювет.

**Орша.** У аддзяленні медрэабілітацыі адрамантавалі 3-ці паверх, дзе ў апартаментах люкс збіраюцца масава прымаць на аздараўленне замежных грамадзян, найбольш з Расіі.

**Полацк.** Днём на аўтобусным прыпынку жыхар горада даў патэлефанаваць па мабільніку маладому мужчыне і пазбавіўся "Нокіі" коштам 700 тысяч, аднак міліцыя злавіла злодзея.

**Віцебск.** У калоніі экс-кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў паведаміў адвакату, што яго перавялі нарэшце ў атрад да людзей з ізаляцыі ў памяшканні камернага тыпу.

**Расоны.** Паблізу расійскай граніцы пагранічнікі і міліцыя затрымалі 38-гадовага жыхара Наваполацка пры спробе незаконна вывезці на грузавым аўтамабілі ў РФ 20 тон мукі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Вечарына сустрэчы выпускнікоў у Глыбоцкай СШ № 1

■ **Яўген Самсонаў**

**Вечарына сустрэчы выпускнікоў адбылася ў Глыбоцкай СШ № 1.**

Адзін раз на год, у першую суботу лютага па ўсёй краіне адзначаецца свята "Сустрэчы выпускнікоў" і нам выпадае шанец сустрэчы з бестурботным юнацтвам, узгадаць аб мінулым, распавесці аб цяперашнім і памарыць аб будучыні. З гэтай нагоды ва ўтульнай, светлай і прасторнай актавай залі СШ № 1 г. Глыбокае было цеснавата. Але пакрыўджаных не было, бо гэтае свята, упэўнена, можна лічыць сямейным. Аўра добразычлівасці, дух гонару і радасці сустрэчы перапаўнялі сэрцы прысутных.

Права агучыць школьны званок было дадзена выпускніку 1982 года Валерыю Закрэўскаму і цяперашняй вучаніцы 1-га класа Арыне Шантарэнка. Бурнымі апладысментамі былі сустрэты: прамова дырэктара школы Інны Савуліч, музычныя нумары і аповеды з прэзентацыяй аб гісторыі школы і яе настаўнікаў.

Былі ўзгаданы прозвішчы былых вучняў, якія не пакінулі родных сцен школы і працуюць тут настаўнікамі, прагучалі імёны ветэранаў-педагогаў. Мінутай маўчання была ўшанована памяць педагогаў, якіх цяпер няма сярод нас.

На сцэну быў запрошаны: юбілейны (30 - гадовы) выпуск 1982 года разам з іх класнымі кіраўнікамі Ганнай Уладзіміраўнай Каліноўскай, Надзеяй Лукінічнай Багданавай і першымі настаўніцамі Ганнай Канстанцінаўнай Калантай і Рымай Фёдараўнай Жынгель, юбілейны (25 - гадовы) выпуск з класнымі кіраўнікамі Зінаідай Якаўлеўнай Заяц, Надзеяй Лукінічнай Багданавай, Наталляй Ермалаеўнай Савуліч і першымі настаўнікамі Ганнай Ігнацьеўнай Храмой, Антанінай Іванаўнай Гайковіч, юбілейны выпуск 1992 года (20-гадовы) з класнымі кіраўнікамі Людмілай Мікалаеўнай Пінчук, Францам Юльянавічам Юхноўскім і першымі настаўнікамі Соф'яй Пятроўнай Беладзед і Ганнай Фёдараўнай Філіпчык, выпуск 1997 года разам з іх класнымі кіраўнікамі Ганнай Уладзіміраўнай Каліноўскай, Галінай Міхайлаўнай Кочаравай, Валерыям Яўгеньевічам Коўганам і першымі настаўніцамі Галінай Міхайлаўнай Кочаравай, Галінай Уладзіміраўнай Лакатун, Тамарай Максімаўнай Сматрыцкай, юбілейны выпуск 2002 года (10 - гадовы) з класнымі кіраўнікамі Марыяй Іванаўнай Бацяноўскай, Галінай Уладзіміраўнай Жыгуновай, Наталляй Арсенцеўнай Грыдзюшка і першымі настаўніцамі Рымай Фёдараўнай Жынгель, Валянцінай Мікалаеўнай Грыбун, Надзеяй Паўлаўнай Маёравай, выпуск 2007 года разам з іх класнымі кіраўнікамі Іннай Антонаўнай Протас, Ліліяй Анатольеўнай Гігель і першымі настаўніцамі Соф'яй Пятроўнай Беладзед, Ганнай Фёдараўнай Філіпчык. На сцэну былі запрошаныя таксама выпускнікі 2011 года.

Напрыканцы вечарыны, пад гучныя апладысменты прысутных, прагучала развітальная песня ў выкананні вядучых.



Традыцыйны школьны званок.



Выпускніцы 2007 года СШ № 1 Кацярына Крываротатава (злева) і Карына Карэпава.



Юбілейны выпуск 1982 года.

■ **Дз.А. Марціновіч,**
*псіхолаг АСАіР ТЦСАН тэлефон даверу 2-33-92 (ананімна і канфідэнцыяльна)*

# Я выбіраю шчасце!

## Якасцю свайго жыцця чалавек адказвае за свой лад жыцця.

Як павялічыць узровень шчасця? Вельмі проста! Першы метад – параўноўваць сябе з тымі, у каго няма таго, што ёсць у цябе. Яшчэ можна ўспамінаць часы, калі ў цябе гэтага не было. Можна напрыклад, спрабаваць «не есці адразу ўвесь пірог», а расцягваць задавальненне. Сюды ж ставіцца імкненне рабіць паўзу паміж паўторам аднаго і таго ж прыемнага моманту.

Яшчэ адзін метад – кантраляваць сваю рэакцыю на падзеі і свае эмоцыі. Шчасце залежыць не ад знешніх рэчаў, а ад таго, як мы на іх глядзім. Жахлівыя пакуты, перанесеныя ў канцэнтрацыйным лагеры, дазволілі псіхолагу Франклу сфармуляваць прынцып: «Паміж раздражняльнікам і рэакцыяй у чалавека застаецца воля выбару». Права выбіраць, што на яго акажа ўплыў, было адзіным, што засталося ў чалавека, у якога на вачах забілі яго блізкіх, якога катавалі і зняважалі. Франкл зразумеў гэта на парозе смерці і назваў гэты прынцып «апошняй чалавечай воляй». Ён не мог пазбегнуць болі, голаду і страху, але затое мог выбіраць сілу псіхалагічнага ўздзеяння, з якой на ім адбіваліся падзеі. Цяжка сабе ўявіць, што ў звычайным жыцці мы можам вось так проста забыцца, што не хапае грошай, ці перастаць хваляваца пра хваробу. Але, перажываючы пазбаўленні і непрыемнасці, мы можам хоць бы трохі «падрэтушаваць» свае негатыўныя эмоцыі, выкарыстоўваючы гэты прынцып.

Яшчэ адной, практычна выканальнай рэкамендацыяй, служыць парада не ўспамінаць пра праблемы, якія не адносяцца да сённяшняга дня. Тут можна працытаваць А. Эйнштэйна: «Шчасце – гэта добрае здароўе плюс дрэнная памяць». Зрэшты, і пра будучыя праблемы лепш падоўгу не думаць.

Хоць наша галава ўвесь час забіта тысячамі думак, яна не можа знаходзіцца ў двух станах аднасова, так што, калі вы будзеце імкнуцца, каб ваша галава была занята прыемнымі думкамі, у ёй застанецца менш месца для непрыемных. Сярод фактараў, якія спрыяюць шчасцю, адзін з самых устойлівых – «рабіць дабро», ці альтруізм. У сувязі з гэтым можна прывесці на здзіўленне простую параду М. Твэна: «Калі табе дрэнна, дапамажы іншаму». Паспрабуйце і, хутчэй за ўсё, гэта дапаможа! І яшчэ адноназіранне: калі аглядаешся вакол, атрымліваецца, што добра дзяліць радасць з кімсьці і цешыцца нечай радасцю. Магчыма, гэта адзін з сакрэтаў пазітыўных адказаў на пытанне пра шчасце, якія даюць жанатыя людзі? Яны маюць магчымасць цешыцца радасцямі адзін аднаго і дзяліць свае нягоды – шчасце кожнага падвойваецца, а няшчасце памяншаецца напалову.

На жаль, у мітусні сучаснага жыцця мы не часта знаходзім час на тое, што нам сапраўды падабаецца. І часцей займаемся тым, што зрабіць неабходна. Аднак тое, што вы любіце – няхай гэта будзе маляванне ці вырошчванне гароднiны на дачы – надасць вам жыццёвых сіл, каб перарабіць усё астатняе. Паглядзіце за сабой – пасля якой працы вы пачуваецеся поўным сіл і энергіі, а якая пакідае вас выціснутым, як цытрына. Паспрабуйце змяніць свой распарадак, зрабіўшы акцэнт на тым, што заражае вас сіламі.



Незвычайныя ўчынкі, любыя парушэнні звыклых шаблонаў і стэрэатыпаў значна павялічваюць энергетычны ўзровень. Паспрабуйце рэгулярна рабіць штосьці новае для вас. Неабавязкова змяняць краіну пражывання ці скакаць з парашутам – можна проста напрыклад, змяніць прычоску. Не радзей, чым раз у тыдзень карысна спытаць сябе: «Чаму новаму я навучыўся?»

Калі Вам трэба хутка набрацца сіл, можа дапамагчы наступная тэхніка. Успомніце пэўную сітуацыю, калі вы былі «на вышыні» і сіл у вас было звышдастаткова. Прадстаўце прама перад сабой малюначак гэтай сітуацыі, саму сябе, людзей і рэчы, якія былі побач. Выразна прадстаўце выраз уласнага твару і свае пачуцці.

Псіхолагі нават вывелі наступную формулу шчасця: Д = П + А + Ф, дзе Д – доўгачасовае шчасце, П – прыроджаны дыяпазон шчасця, на які здольны чалавек; А – акалічнасці жыцця (прыбытак, сямейны статут, узровень рэлігійнасці і г.д.); Ф – фактары, падкантрольныя чалавеку (такія якасці, як аптымізм, здольнасць прабачаць і забываць). Лічыцца, што менавіта Ф – зона максімальнай аптымізацыі. Чалавек вольны абіраць сваю рэакцыю на свет, а не жыць па навязаных стандартах. Калі ты не вінаваціш іншых за свае прамашкі, ты меней залежны ад свету і ў адзнацы тваіх заслуг і, такім чынам, вольны ад залежнасці ў тым, як стаць шчаслівым!

Дабрыня і шчодрасць - асноўныя часткі альтруізму і самі па сабе наймагутныя фактары шчасця. Цікава зірнуць на гэтыя якасці з шырэйшага пункта гледжання, паколькі асабіста я ніколі не сустракаў чалавека, які сказаў бы: «Я быў добры, шчодры і таму я шчаслівы». Дабрыня ці наўрад дапаможа шчасцю, калі ў вас няма вельмі моцнай перакананасці ў тым, што вы вытрымаеце зваротную, так сказаць «дабрыню» людзей. Вакол кожнага з нас даволі шмат людзей, якія неадкладна скарыстаюцца намі, лічачы нас дурнямі. Таму ў звычайным жыцці цяжка сабе прадставіць, што вы зможаце стаць шчаслівым дзякуючы гэтым якасцям, калі ў вас няма адвагі і здольнасці ПРАБАЧАЦЬ. Апошняя патрэбна, каб не чакаць падзякі за свае добрыя справы. Здольнасць прабачаць патрэбна і для таго, каб не дазваляць мінуламу азмрочваць ваша сапраўднае і будучае.

Так, я ведаю, гэта вельмі цяжка, але гэта магчыма. Варта, напэўна, успомніць раман М. Булгакава «Майстар і Маргарыта». У адной са сцэн Іешуа глядзіць на пракуратара і кажа, што яго асноўная праблема – гэта страх. Той самы страх, які ў часы Булгакава пажыраў свядомасць усіх незалежна думаючых людзей. Падумайце, колькі ўтоеных у вас якасцяў вы не здольныя выявіць з-за таго, што вам страшна. З-за таго, што вы баіцеся «адкрыцца», «здацца слабым», «адрозніваца ад іншых», «выклікаць крытыку»? Магчыма, тады вы пагодзіцеся, што страх стаіць на шляху высакародных намераў, і на шляху шчасця. Як толькі вы прачуеце на гэтым ці іншым прыкладзе ўнутраны страх перад прадказальнай рэакцыяй людзей на вашы спробы быць добрымі, вы, магчыма, зразумееце, што сабой уяўляе той магутны падсвядомы заслон, які ёсць ва ўсіх нас і які так замінае шматлікім стаць добрымі.

Магчыма вы заўважалі за іншымі, а можа быць і за сабой, дзіўную заканамернасць – вельмі часта ўспамінаць і падоўгу думаць штосьці дрэннае, непрыемнае. Інакш кажучы – мы паўторна, а часам і шмат разоў самастойна прычыняем сабе тую ж боль, якая ўжо прайшла . Таму ў такія моманты лепш успомніце прынцып шчасця Франкла і спытайце ў іншых ці ў сябе, за што вы ўдзячныя ў гэтым жыцці.

# Мястэчка Глыбокае

## Гаспадарка мястэчка Глыбокае на пачатку XIX стагодзьдзя

■ **Аляксандр Івашчонак**, *бакалаўр гісторыі.*

**Публікацыя захоўвае стыль і правапіс аўтара.**

**Працяг.**

*Пачатак у №4(616) за 26 .01. 2012 г., №5 (617) за 02.02.2012 г.*

### Корчмы

Акрамя таго Кармэліты мелі ў мястэчку некалькі корчмаў. Найбольшай з іх была Аўстэрыя, якая знаходзілася на Рынку мястэчка Глыбокае. Гэта быў цагляны будынак, пабудаваны ў форме прамавугольніка, атынкаваны, пабелены. Меў двое ўяздных двайных варот, якія былі абітыя футрам, на засоўкі і з унутранымі замкамі. Аўстэрыя мела драўляны ганак, пабудаваны на 6 слупах з боку Рынку, і таксама як Аўстэрыя быў пакрыты гонтам. Сама Аўстэрыя складалася з памяшканьня з дзьвюма бакоўкамі і цаглянай печчу, дзе жылі працаўнікі карчмы, адной вялікай залі (так званая шынковая заля), 4 складоў, 3 гасьцявых пакояў, кухні зь дзьвюма печамі і двух склепаў. Аўстэрыя мела два дубальтовыя вакны і 15 адзіночных, з кратамі 4, кафлёвых печак было 5 і адна цагляная, такім чынам Аўстэрыя мела 5 комінаў. У залі і двух пакоях падлога была драўляная, а ў іншых памяшканнях цагляная. У залі было 4 сталы: 2 вялікія, адзін з шуфлядай і адзін маленькі, каля сьцен стаялі дзьве лавы, былі таксама адзін зэдлік, 3 крэслы, 2 тапчаны і вуглавая шафа. Каля Аўстэрыі была стадола для коняў.

Манахі мелі таксама іншую карчму, якая называлася “Гавэнда” (Gawęda), а знаходзілася яна на канцы вуліцы Рынкавай. «Гавэнда» была драўляная, пакрытая гонтам, мела адзін комін, складалася з залі шынковай і памяшканьня для шынкара са шведскай печчу і бакоўкай. У залі была цагляная печ, адзін стол, 2 лавы і зэдлік, два сярэднія вакны і адно малое.

Была і трэцьцяя манашская карчма, якая называлася “Пад Касьцялком Копцёўкай” (Pod Kościółkiem Korpciówką). Была яна драўляная сасновая. Складалася з памяшканьня для шынкара з дзьвюма бакоўкамі, залі шынковай і двух гасьцявых пакояў. Гэтая карчма мела таксама і стадолу.

### Іншыя пабудовы

У Глыбокім Кармэліты мелі таксама і ветравы млын тыпу казак і таксама водны млын. Акрамя гэтага была яшчэ і пякарня (там, дзе пяклі хлеб), краўцоўня (дзе шылі адзеньне пад заказ), абутковая майстэрня, аптэка, цырульня. Варта памятаць, што пры кляштары быў яшчэ шпіталь, лазарэт і парафіяльная школа, але вялікага ўплыву на гаспадарку кляштара, яны ня мелі. Трэба толькі дадаць, што мелі яны сваю кухню, 2 склады, 2 склепы, ганак і свой агарод.

Каб усё гэта добра працавала, манахі мелі 69 працаўнікоў, якія жылі пры кляштары і выконвалі свае абавязкі. Саміх манахаў было 32.

### Жывы інвентар

Акрамя пералічаных пабудоваў манахі мелі шмат жывёлаў. А менавіта пры кляштары Кармэлітаў у Глыбокім было 37 коняў, 54 каровы, 21 цялушка, 5 козаў, 53 авечкі, 86 сьвіней, 47 гусакоў, 66 курэй, 8 вуллёў з пчоламі.

### Аптэка

**Хто першы прывёз у Глыбокае шакалад?**

Адказ на гэтае пытаньне вельмі просты. Шакалад у 1646 г. патрапіў з Італіі ў Прусію, дзе быў даступны толькі ў аптэках, якія належалі манахам, а з Прусіі ў Рэч Паспалітую. Таму адказ трэба шукаць, пытаючыся, хто адчыніў першую аптэку ў Глыбокім. Аптэка ў Глыбокім з’яўляецца адной з самых старажытных аптэк у нашым рэгіёне. Сваімі каранямі сягае XVIII ст. Першую аптэку ў Глыбокім заснавалі манахі Кармэліты Босыя. Дакладная дата фундацыі аптэкі на жаль невядомая, аднак бяз сумневу з’явілася яна разам з лазарэтам, шпіталём і парафіяльнай школай, якія стварылі Кармэліты ў Глыбокім якраз у першай палове XVIII ст.

Што тычыцца самой Кармэліцкай аптэкі ў Глыбокім, то ўяўляла яна сабой 4 вялікія пакоі са складам дый аптэчным агародам, на якім вырошчвалі неабходныя зёлы для выраблення лекаў. Аптэчныя пакоі знаходзіліся ў будынку кляштара адразу пры ўваходзе каля фурты. А перад яе вокнамі быў пабудаваны аптэчны агарод, абнесены штыкетам з 12 мураванымі слупамі, на якіх былі вазоны з кветкамі. У гэтым агародзе была насыпаная сьпецыяльная зямля, а сам агарод быў падзелены на адмысловыя кватэры, дзе вырошчваліся розныя тыпы лекавых зёлаў. Каб патрапіць ў гэты агарод, была зробленая сьпецыяльная фуртка.

Што тычыцца самой аптэкі, то як ўжо было напісана, складалася яна з 4 пакояў:

1-ы пакой – так званы аптэчны магазін, куды прыходзілі людзі і маглі купляць лекі.

2-і пакой – лабараторыя, месца, дзе выраблялiся лекі.

3-і пакой – месца, дзе займаліся прыгатаваньнем зёлаў, каранёў, дзе іх рэзалі, абіралі, каб пасьля ўжо прыгатаваны матэрыял аддаць ў лабараторыю.

4-ы пакой – своеасаблівая сушылка, дзе трымалі розныя зёлы, камялі, карані ў суровым стане.

Акрамя гэтага Кармэліцкая аптэка мела вялізарнае навуковае заплечча, перадусім розныя медычныя кніжкі ды зборнікі, а менавіта:

1. Лацінскі слоўнік ў 4 тамах.
2. Медычна-хімічны Thesaurus.
3. Pharmacopoeia Augustana.
4. Медычная Кніга Ёньніса Янгхора (Liber Medicus Jonnis Janghor).
5. Зельнік Сырынэя.
6. Dispensatorium Brandeburgium.
7. Тexa Rossica ў 8 тамах за 1811 і 1826 гг.
8. Гербарый зь зёламі.
9. Расійскі медычны сьпісак ў 8 тамах.
10. Pamiętnik Farmaceutyczny за 1820 г ў 8 экзэмплярах, за 1821, за 1822 гг.

Акрамя навуковых кнігаў аптэка мела шмат медычных прыладаў:

1. Аптэчныя бутэлькі розных памераў і кшталтаў з надпісамі – 248 штук.
2. Слоікаў аптэчных розных – 150 штук.
3. Колбаў розных – 208 штук.
4. Жбанкоў гліняных аптэчных – 92 штукі.
5. Цыновыя начыньні, медзяныя друшлякі, падносы, трубкі, кацялкі – 35 штук.
6. Стаўбункі, шалі, дзяўбункі, формы для пякучых камянёў, зёлаў – 127 штук.
7. Формы для шакаладу, лекаў – 40 штук.
8. Драўляныя скрынкі – 23 штукі.

Акрамя таго былі яшчэ хімічная печ, машына для вырабу таблетак, сьпецыяльныя машыны для пазалочваньня і пасрэбраваньня таблетак, аптэчная шафа з 415 шуфлядамі з надпісамі, а таксама 195 начыньняў для лекаў.

Усё гэта вымагала вялікай адказнасьці і працы. На пачатку аптэкарамі былі толькі манахі, але пасьля з цягам часу аптэкарамі былі таксама і сьвецкія асобы, але заўсёды з адпаведнай адукацыяй. Аптэкар меў таксама памочнікаў, імёны некаторых нам вядомыя:

1. Лукаш Дземідовіч.
2. Міхал Сівіцкі.
3. Міхал Пашковіч.
4. Якуб Кучко.

Вось так. Уявіце сабе, што ўсё гэта было ў Глыбокім ужо ў XVIII ст. і менавіта тады глыбачане ўжо маглі лячыцца шакаладам!

**P.S.:** На жаль можна яшчэ і сёньня прачытаць ў некаторых кніжках аб тым, што манастыры былі толькі цёмнымі месцамі, дзе самым вялікім злом была навука. Аднак гісторыя паказвае, што ўсё якраз было наадварот, менавіта манастыры былі тым месцам, дзе перадусім разьвівалася навука і гаспадарка, а больш за ўсё медыцына і фармакалогія. Савецкія аптэкі, асабліва ў 1940-50 гг. маглі толькі пазайздросьціць Кармэлітам за тую аптэку, якую яны мелі ў Глыбокім ужо 200 гадоў назад.

*Працяг будзе.*



**Аўстэрыя (фрагмэнт), якая некалі знаходзілася на месцы сёньняшняга фантана.** *Здымак 1930-х гг.*



**Аўстэрыя (на пярэднім плане) з вышыні птушынага палёту.** *Фота Леанарда Рачыцкага, 1930-ыя гг.*



**Зёлы для жанчыны, якая не можа мець дзяцей.**




**Манах, які працуе ў аптэцы.**

# Што можа уночы рабіць чалавек у лесе?

■ **А.В. Протас ,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

Штотыдзень супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету выяўляюць грубыя парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства, затрымліваюць парушальнікаў у лясах і на азёрах, канфіскуюць забароненыя прылады рыбалоўства і палявання, у зімовы час асабліва шмат незарэгістраванай зброі.

5 лютага каля 22 гадзін супрацоўнікі Глыбоцкай міжінспекцыі, знаходзячыся ў рэйдзе, вырашылі праверыць наяўную ў іх інфармацыю пра тое, што паблізу в. Каралёва Шаркоўшчынскага раёна мясцовыя жыхары ажыццяўляюць незаконнае паляванне з незарэгістраванымістрэльбамі. Пакінуўшы машыну далёка ад месца магчымага знаходжання браканьераў, інспектары павольна сталі прасоўвацца ўздоўж вёскі, уважліва агледаючы наваколлі і прыслухоўваючыся да начных гукаў. Раптам інспектары пачулі крокі, а затым з цемры выйшаў чалавек. Што можа рабіць уночы чалавек у лесе? Інспектары вырашылі праверыць і правільна зрабілі. Жыхар в. Каралёва грамадзянін Х. ішоў ужо дахаты з зараджанай і незарэгістраванай стрэльбай. Здабыць зайца ці казулю ён не змог і быў вельмі расчараваны, але яшчэ больш ён расчараваўся, калі сустрэўся з інспектарамі, якія канфіскавалі ў яго незарэгістраваную стрэльбу і боепрыпасы. Зараз начнога парушальніка чакае суд і суровае пакаранне. Затрыманы браканьер ужо меў нелады з законам, і гэта яму залічыцца пры вынясенні рашэння аб пакаранні.

Па ўсёй рэспубліцы міліцыя штогод праводзіць акцыі па добраахвотнай здачы незарэгістраванай зброі і боепрыпасаў. Дадзеныя акцыі шырока асвятляюцца ў сродках масавай інфармацыі, шмат якія грамадзяне здаюць зброю, патроны і іншыя выбуховыя рэчывы і вызваляюцца ад адказнасці, але ўсё адно штомесяц супрацоўнікі міжрайінспекцыі і міліцыі канфіскуюць у грамадзян зброю і боепрыпасы, якія незаконна захоўваюцца.

Так, 1 лютага работнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі сумесна з супрацоўнікамі Пастаўскага і Глыбоцкага РАУС пры правядзенні аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў канфіскавалі ў трох жыхароў г. Глыбокае 4 незарэгістраваныя паляўнічых стрэльбы і вялікую колькасць боепрыпасаў. Зараз парушальнікам прыйдзецца адказваць перад законам, за незаконнае захоўванне зброі.

За студзень і першы тыдзень лютага супрацоўнікі міжрайінспекцыі канфіскавалі ў парушальнікаў 8 адзінак незарэгістраванай агнястрэльнай зброі, тым самым выратавалі не толькі дзікіх жывёл, але і чалавечыя жыцці.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефоне «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 8-02156-2-86-70, мабільныя тэлефоны інспектараў: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49 (МТС).

# Папярэджанне цеплатраўматызму

■ **Н.В. Кожух,**
*інспектар цеплатэхнічнай групы Глыбоцкай МРА*

Падчас ацяпляльнага перыяду часам узнікае неабходнасць правядзення рамонтных работ на цеплафікацыйным абсталяванні і цеплавых сетках. Правядзенне гэтых мерапрыемстваў звязана з пэўнай небяспекай для людзей, якія не адносяцца да рамонтнага персаналу.

Неабходна памятаць, што тэмпература гарачай вады, якая праходзіць па трубаправодах, можа дасягаць 150 градусаў, а пары – 300 градусаў. Нават лёгкае дакрананне да трубаправоду з такой тэмпературай можа прывесці да сур'ёзных апёкаў. Небяспеку таксама выклікаюць парывы трубаправодаў падземнай пракладкі, калі ўтвараецца прамыіна, якая запоўнена гарачай вадой. Так, да прыкладу, нядаўна ў г. Жодзіна адбыўся няшчасны выпадак з 14-гадовым школьнікам, які спатыкнуўся ў цемры і зваліўся ў яму з крутым кіпнем, дзе быў парыў цеплатрасы. Падлетак, у выніку моцнага шоку, з апёкамі ног 2-ой і 3-яй ступені быў дастаўлены ў бальніцу.

Паважаныя дарослыя, каб пазбегнуць траўматызму, не дазваляйце дзецям залазіць у раскапаныя траншэі, катлаваны, адкрытыя цеплавыя камеры і калодзежы, гуляць у месцах правядзення работ.

Пры правядзенні рамонтных работ суб'екты гаспадарання павінны кіравацца і выконваць патрабаванні «Правіл тэхнікі бяспекі пры эксплуатацыі цеплавыкарыстальных установак і цеплавых сетак спажыўцоў» і будаўнічых нормаў і правілаў у частцы ўстаноўкі часовых агароджаў і светлавой сігналізацыі. Усе рамонтныя работы на цеплавых сетках павінны выконвацца па нарадах-допусках. Вакол месцаў выяўленых парываў цеплавых сетак, правядзення рамонтных і земляных работ павінны быць усталяваны агароджы, папераджальныя знакі бяспекі, сігнальнае асвятленне.

Пераходы праз траншэі павінны быць абсталяваны пераходнымі масткамі з парэнчамі, асветленымі ў начны час.

Энерганагляд папярэджвае: у пазбяганне няшчасных выпадкаў, якія звязаныя з апёкамі і траўмамі, і ў мэтах асабістай бяспекі **ЗАБАРАНЯЕЦЦА**:

● спускацца і перасякаць у неабсталяваных месцах траншэі, каналы, дзе вядуцца работы па пракладцы або рамонту цеплавых сетак;

● датыкацца да трубаправодаў пары і гарачай вады, спускацца ў адкрытыя цеплавыя камеры, калодзежы, каналы;

● хадзіць па трубаправодах, канструкцыях і перакрыццях;

● пералазіць праз трубаправоды надземнай пракладкі ў месцах, не абсталяваных пераходнымі масткамі;

● знаходзіцца ў непасрэднай блізкасці ад запорнай, рэгулюючай і засцерагальнай арматуры, фланцавых злучэнняў трубаправодаў;

● круціць засаўкі, вентылі і краны на любых трубаправодах;

● пранікаць у памяшканні цеплавых пунктаў;

● набліжацца да месцаў, дзе вядуцца работы па выпрабаваннях, рамонту цеплавых сетак, праводзяцца зварачныя работы.

● заўважыўшы парэнне на трубаправодзе цеплавой сеткі, – набліжацца да месца парэння; неабходна апавясціць пра гэта аварыйную службу УП ЖКГ

**Энерганагляд раіць:** тлумачце дзецям і падлеткам, інфармуйце работнікаў аб неабходнасці выконваць Правілы тэхнікі бяспекі, бо любая бяспечнасць можа прывесці да трагедыі.

## На Піншчыне вартаўнік задушыў ваўка

**Здарэнне адбылося ў вёсцы Парахонск.**

Воўк пакусаў мясцовага палявода, а праз некаторы час напаў на калгаснага вартаўніка, які рухаўся на аўтобусны прыпынак. Апошні выпадак каштаваў жыцця ваўку — мужчына задушыў драпежніка.

Пацярпелыя вяскоўцы знаходзяцца ў пінскай лякарні, а ваўчыную галаву адправілі на экспертызу на шаленства.

nn.by

## У Валожынскім раёне знайшлі трох абезгалоўленых зуброў

Вечарам у мінулую пятніцу ў лесе ля вёскі Яцкава Валожынскага раёна работнікі стаўбцоўскай лясной гаспадаркі знайшлі целы трох зуброў без галоў.

Начальнік следчага камітэта Валожынскага раёна Віталь Юрэвіч паведаміў, што, падобна, што зубры былі забітыя не ў пятніцу.

На месцы працуюць аператыўнікі.

***Рэгіянальная газета***



## Віншаванкі

*Віктара Юльянавіча Пачопку*

**Віншую з нагоды юбілею Дня народзін**

Две красивые пятерки -
Это возраст нынче твой.
И сказать я должен честно:
Это возраст золотой.
Позади полно заслуг,
Но и впереди, поверь,
Много дел прекрасных, друг,
Сделать предстоит тебе.



*Яўген*

## МНС інфармуе
**на 07.02.2012 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 193;
Гібель людзей – 27, з іх 2 дзіцяці;
Урон – 995,7 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 15;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон – 89 400 000 руб.

## У Беларусі ўпершыню пройдзе чэмпіянат свету лесарубаў

***Спаборніцтвы адбудуцца ў жніўні ў Раўбічах.***

**У Беларусі сёлета ўпершыню пройдзе чэмпіянат свету лесарубаў, паведаміў на прэс-канферэнцыі 2 лютага ў Мінску міністр лясной гаспадаркі Міхаіл Амельяновіч.**

Спаборніцтвы адбудуцца 23–27 жніўня на базе алімпійскага спартыўнага цэнтра «Раўбічы». Плануецца, што ў іх возьмуць удзел да 150 лесарубаў з 30 краін. Чакаецца таксама, сказаў чыноўнік, вялікі наплыў турыстаў. Для іх распрацоўваецца культурная і экскурсійная праграма.

Амельяновіч паведаміў, што для падрыхтоўкі і правядзення 30-га чэмпіянату свету лесарубаў створаны аргкамітэт, які ўзначаліў намеснік прэм'ер-міністра Валерый Іваноў.

Кіраўнік Мінлясгасу лічыць, што «добрай рэпетыцыяй» перад сусветным чэмпіянатам стаў рэспубліканскі чэмпіянат лесарубаў у 2011 годзе.

Паводле слоў Амельяновіча, Беларусь атрымала права на правядзенне спаборніцтваў за дасягненні айчынных спартсменаў-лесарубаў на міжнародных турнірах.

«У нас ёсць плеяда здольных вальшчыкаў лесу, якія могуць дастойна выступіць на чэмпіянаце свету.

На рэспубліканскім спаборніцтве, якое адбудзецца ў чэрвені, мы адбяром найлепшых. Мы ставім задачу заняць дастойныя месцы ў сусветным спаборніцтве», — заявіў міністр.

***БелаПАН***

# У Беларусі штучна скарачаюць колькасць баброў

**У Беларусі праводзіцца штучнае скарачэнне папуляцыі баброў, паведаміў міністр лясной гаспадаркі Міхаіл Амельяновіч.**

Як адзначыў міністр, бабры, колькасць якіх у апошнія гады значна вырасла, наносяць сур'ёзную шкоду лясам, знішчаючы дрэвы.

Паводле слоў кіраўніка ведамства, у Беларусі доўгі час не рэгулявалася шчыльнасць пражывання баброў. У 2011 годзе спецыялісты сур'ёзна ўзяліся за гэту праблему, паведаміў Амельяновіч.

«Быў распрацаваны план кропкавага адлову баброў, і да 1 лютага гэтага года задача выконвалася.

Мы адрэгулюем шчыльнасць баброў і мінімізуем адмоўныя наступствы ад жыццядзейнасці гэтых жывёл у лясной гаспадарцы», — сказаў ён.

Пры гэтым міністр таксама паведаміў, што праводзіцца перасяленне баброў у тыя месцы, дзе іх колькасць невялікая.

Акрамя таго, Амельяновіч адзначыў, што цяпер стаіць праблема са збытам бабровага футра.

Зніжэнне папулярнасці гэтага футра прыводзіць да рэзкага зніжэння цэн на яго.

Як паведамілі ў прэсслужбе Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, згодна з апошнімі звесткамі папуляцыя баброў у Беларусі складае 63,3 тысячы. У параўнанні са звесткамі за 2010 год іх колькасць павялічылася амаль на тысячу. На думку вучоных, аптымальная папуляцыя гэтых жывёл павінна складаць каля 30 тысяч.

***БелаПАН***

